Цана асобнага нумару 1000 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 10.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 2500 мк., сярод тэксту 2000 м. і на 4 стр. 1500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 5 Серада, 20-га чэрвеня 1923 г. Год I.

## Орыентацыя на сябе.

Украінская газэта „Громадський Голос“ з прычыны прызнаньня за Польшчай Усходняе Галічыны, якой антанта дакляравала раней асобны аўтаномны статут, ды абяцанкі ня споўніла, — кліча украінскае грамадзянства да орыентацыі „на работніцкія масы“.

Можа быць, што сярод украінскага народу буржуазныя элемэнты дайшлі ўжо гэткае сілы і значэньня, што прыходзіцца рабіць выбар: ці ў барацьбе за свой нацыянальны быт апірацца на буржуазіі, ці на працоўным народзе. У нас-жа, у беларусаў, з гэтага боку палажэньне шмат прасцейшае і выразнейшае: наша „родная“ буржуазія дагэтуль яшчэ гэткая слабая і гэтак блага арганізаваная, што нам выбіраць, куды і на каго орыентавацца, зусім ня прыходзіцца.

Трэба дадаць, што нашы буржуазныя элемэнты і з нацыянальнага боку настолькі яшчэ слабы, што ў сваей орыентацыі прымушаны кіравацца на буржуазію **чужых** нацыянальнасьцей, — у гэты мамэнт на буржуазію польскую. Уся-ж нацыянальная творчая праца беларускага народу ад самага пачатку адраджэнскага руху ляжыць на плячох працоўных масаў (работніцка-сялянскіх) і незалежнае інтэлігенцыі. На працы гэтых-то элемэнтаў грунтуецца і ўся будучына нашага народу.

Перажываныя намі часы даказваюць лішні раз, што, ня гледзячы на тыя ці іншыя ўдачы рэакцыі, у кожным краю істнуючы лад апіраецца на працоўных масах. Гэта пацьвярджае нават самы факт пабед чорных сілаў: свае ўдачы рэакцыя даходзіць толькі дзякуючы таму, што ёй удаецца падчыніць сабе рознымі ашуканскімі спосабамі гэныя самыя масы. Модны цяпер „фашызм“ — і той здабывае ўладу рукамі працоўнага народу, абдурыўшы яго перш ашуканствам. Такое значэньне працоўных масаў паказвае, што беларуская творчая праца, абапёртая на ўчасьці ў ёй працоўнага народу і блізкай яму незалежнай інтэлігенцыі, мае запраўды непарушны, моцны фундамэнт.

Цяпер ясна, што і ў-ва усей нашай далейшай рабоце мы павінны **орыентавацца толькі на сябе**, бо-ж працоўныя сялянскія і работніцкія элемэнты становяць галоўную масу нашага народу. А з гэтага вынікае, што наша нацыянальная ідэалёгія павінна быць неразрыўна зьвязана з ідэалёгіяй працоўнай, сялянска-работніцкай.

Гэта значыць, што, ці то закладаючы грамадзкія установы, ці узгадоўваючы маладыя пакаленьні — нашу новую інтэлігенцыю, ці творчы новыя культурныя цэннасьці, мы павінны ўкладаць у іх **элемэнты душы і волі працоўнага народу**. Толькі тады і твораная намі беларуская культура будзе свaей, роднай для самых шырокіх народных масаў, толькі тады апошнія запраўды здолеюць карыстацца заваяваньнямі і здабычамі гэтае культуры, толькі тады народ увесь, у сваім цэлым, будзе духова расьці і ўсё паўней і ярчэй выяўляць сваю душу — душу масы з усімі яе асаблівасьцямі і ўласьцівасьцямі.

Такая орыентацыя **„на сябя“** — адзіная дарога для ўсяго беларускага адраджэнскага руху. Яна адна толькі і можа ўсьцерагчы наш рух ад памылак і ня даць яму зьбіцца на пагібельны шлях.

**Лаурыновіч.**

## Міжнародныя адносіны.

Цэнтральнымі пытаньнямі эўрапейскай палітыкі, а магчыма і сусьветнай, у сучасны мамэнт зьяўляюцца пытаньні аб антанцка-нямецкіх і антанцка- савецкіх адносінах.

Даведзеная акупацыяй свайго жыцьцёвага цэнтру да эканамічнага краху з усімі ягонымі вынікамі, як спадак маркі, дарагоўля, безрабоцьце і высокі пад‘ём хвалі рэвалюцыйнага руху,—Нямеччына прыкоўвае да сябе ўвагу як свае роднай, так і міжнароднай буржуазіі, якая пачынае дрыжэць перад вынікамі сваей палітыкі, аснованай выключна на як найбольшым вызыску.

А вынікі гэтыя для яе запраўды грозныя. З магчымасьцю рэвалюцыйнага пралетарскага перавароту ў Нямеччыне сур‘ёзна лічацца ўва ўсей Эўропе. Вось што піша з гэтай прычыны польская консэрватыўная газэта „Czas“:

„Факт гэты (пераварот у Нямеччыне), паскольки цяперашні ўрад ня здолае ў час апанаваць камуністычным рухам, прадстаўляе вялізарную небясьпеку для ўсей Эўропы. Сацыяльны пажар у асяродку Эўропы можа лёгка перакінуцца ў суседнія краі, ў якіх таксама няма няхватку ў палкім матэр‘яле. Камуністычныя цячэньні перад усім моцны ў Англіі; левыя адцені рабочай партыі даўно ўжо спачуваюць ім. Перамогшы нямецкі бальшавізм бязумоўна быў-бы сыгналам да падобных спробаў у іншых краёх. Супольная акцыя нямецка-расейска-ангельскага бальшавізму сталася-б толькі пытаньнем часу. Што-ж казаць у такім выпадку аб узросьце камунізму ў Італіі“.

І „Czas“ страшна непакоіцца за лёс Польшчы, лепш сказаць—польскай буржуазіі, якая апынулася-б сярод грознага рэвалюцыйнага акіяну з Усходу і Заходу.

Добра ацэнівае гэта і нямецкая буржуазія, якая перад пагрозай рэвалюцыі йдзе ўсё на большыя уступкі ў пытаньні аб рэпарацыйных сплатах і, калі яшчэ нямецкі ўрад трымае фасон і не здаўся аканчальна на капітуляцыю перад франка-бэльгійскімі вымаганьнямі, дык толькі дзеля таго, што яго не пакідае надзея, што францускія капіталісты зразумеюць урэшце тую вялізарную небясьпеку, якою рэвалюцыя ў Нямеччыне пагражае для іх самых.

Разумее гэта і Англя, якая робіць высілкі, каб заставіць быць падатлівейшай сваю упартую саюзьніцу. Увесь час вядзецца дыплёматычная перапіска, адбываюцца нарады, ствараюцца новыя праекты... і ўвесь час вядзецца нічым ня прыкрытае гандлярства, выяўляецца жаданьне, каб атрымаць смашнейшы кусок пры супольным грабежы.

Што пераможа: ці практычная развага ангельскіх купцоў, ці прагавітыя жаданьні францускай буржуазіі, якая ў засьляпленьні ня бачыць таго, што капае яму сама пад сабою,—угадаць пакуль-што трудна.

Другое цікавае зьявішча—гэта адносіны эўрапэйскіх буржуазных урадаў да другога рэвалюцыйнага ачагу—да С. С. С. Р. Буржуазія ўсяго сьвёту прымушана лічыцца з фактам, што Савецкія Распублікі, паўстаўшыя на руінах імпэрыі Раманавых, не зьяўляюцца чымсь-ці часовым і пераходным, але, праўда, з вялікімі высілкамі, змагаючыся з фатальнай спадчынай царскага рэжыму і сусьветнай і грамадзянскай вайны, паступова, крок за крокам, выходзяць на шлях творчай працы над стварэньнем новых сацыяльных і эканамічных формаў жыцьця.

Баючыся адкрыта прызнаць гэтае ў форме прызнаньня савецкага ўраду, старая Эўропа і Амэрыка ўсё-ж такі прымушаны прызнаць гэта хоць і не яўна, але ў выразнай форме навязаньня з Сав. Рэспублікамі эканамічных стасункаў і гандлёвых зносін. Амэрыка даўно ўжо стала на гэты шлях, атрымліваючы рожныя канцэсіі; Англія таксама мае сваю гандлёвую місыю ў Маскве. Толькі Францыя да апошняга часу стаяла на грунце поўнага няпрызнаньня Савецкіх Рэспублік, але ў апошнія часы і тут павеяў вецер з іншага боку.

Бадай адначасна з удзяленьнем праз францускае пасольства ў Бэрліне візы рэпатрыанцкай савецкай дэлегацыі Усьцінава, прыехала ў Маскву француская гандлёвая дэлегацыя з Дювэргам на чале, які, ў размове з карэспандэнтам „Известий“, так малюе сучасныя настроі ў Францыі: „У вялізарнай сваей большасьці францускі народ і надалей мае самыя прыязныя пачуцьці да расейскага народу. *Раўнавага у Эўропе наступіць толькі тады, калі Вялікая Расея зноу возьме удзелу сусьветным гаспадар. жыцьці.* Гэтае прызнаньне дэлегата францускай буржуазіі, якая была самым заядлым ворагам расейскай рэвалюцыі вельмі паказацельна і выразна падцьвярджае, што ўрады Антанты—можа з скрогатам зубоў—прымушаны будуць сілаю жыцьцёвай неабходнасьці адмовіцца ад датыхчасовай палітыкі авантур, выяўляўшайся ў падтрыманьні Колчакаў, Дзенікіных, Урангеляў і аружнай інтэрвэнцыі ў справы Савецкіх Рэспублік.

На гэтае паказывае і апошняя прамова Лёйд-Джорджа, бязумоўна аднаго з найбольш разумных і лёгічных сучасных буржуазных палітыкаў, які абгаварываючы адносіны да Сав. Рэспублік, сказаў: „Калі нам прыходзіцца заняць палажэньне адносна да савецкай улады, ніколі ня трэба забываць, што тут справа ня столькі ў расейскім урадзе, сколькі ў народзе, і што ў даны мамэнт маскоўскія бальшавікі адзіны мост да магутнага расейскага народу. *Пакуль істнуе такое палажэньне рэчаў, пакуль саветы прадстаўляюць адзіную уладу у Расеі, усялякі варожы паход супроць іх будзе адначасна скіраваны процiў усяго краю.*

На гэта паказывае і тое, што разгарэўшыся англа-савецкі канфлікт падыходзіць да мірнага разьвязаньня.

**Я. Л—віч.**

## Палітычныя падзеі.

### Ізноў Балканы!

З даўных часоў адносіны паміж нацыянальнасьцямі, якія жывуць на Балканскім паўвостраве, гэтак заблуталіся, што чуць ня ўсе ваенныя пагрозы за апошнія перад сусьветнай вайной дзесяткі гадоў ішлі адтуль. Пасьля вызваленьня балканскіх народаў з пад улады Турэччыны, гэтак сама вечна „хворага чалавека“, народы гэныя падпалі пад уплывы вялікіх эўрапэйскіх гаспадарстваў (Расеі, Нямеччыны), якія ўсьцяж снавалі тамака палітычныя інтрыгі, імкнучыся кожная да поўнага палітычнага апанаваньня Балканаў.

Як ведама, сусьветная вайна такжа пачалася з Балканаў; сыгналам да яе паслужыў „сараеўскі стрэл“, якім быў забіты аўстрыйскі насьледнік, Фэрдынанд.

У часе сусьветнае барацьбы Балканы былі заліты крывёю, якая не засохла яшчэ ад нядаўных балканскіх войнаў — сьпярша балканскіх народаў з туркамі, а пасьля паміж сабой. Пасьля агульна-эўрапэйскага міру на Балканах канца вайны мы таксама ня бачылі: апошні год тамака ішло аружнае змаганьне паміж Грэцыяй і Турэччынай.

Цяпер, калі можна было лічыць грэцкатурэцкую вайну зьліквідаванай, узьнялася новая пагроза вайной.

Пераварот у Баўгарыі нарушае тую палітычную раўнавагу, што была устанавілася на Балканах. Справа ў тым, што Баўгарыя ў часе сусьветнае вайны ішла рука ў руку з Нямеччынай, Аустрыяй і Турэччынай, а другія балканскія народы схаўрусаваліся з дзяр-

словы яго, ў каторыя ён шчыра верыў, збыліся на нашых вачох.

І мы ня менш шчыра верым, што такі мамэнт прыдзе і для Беларусі, што з развалам мілітарыстычнага ладу і беларускае пытаньне будзе аканчальна і поўна разьвязана. За гэту-то нашу веру польскі нацыяналізм, які стараецца абаперці быт Польшчы на мілітарызьме, глыбока нас ненавідзіць.

Зусім зразумела!

### І на Украіне тое-ж...

Львоўская украінская часопісь «Громадський Голос» апавядае, што

> на Валыні пачалося новае наступленьне на украінскія установы і паадзінокія асобы. Пачаліся масавыя вобыскі у ўсіх установах і ў розных асоб, ды пры гэтым не абыйшлося бяз арыштаў, Валынскае ваяводзтва паведаміла „Просвіту“ ў Роўным, што гэтае таварыства разам з аддзеламі зачыняецца.
>
> Адначасна польская ўлада падтрымлівае работу вядомага пагромшчыка Оскілкі і яго таварышаў, якія пачалі займацца даносамі на тамтэйшых украінскіх дзеячоў і на цэлыя арганізацыі.

Відаць, не адны беларусы маюць няшчасьце мець „сваіх“ Балаховічаў, Дубейкоўскіх, Міткевічаў і т. п.!...

### Кароткая памяць.

Абгаварываючы экспозэ міністра фінансаў Грабскага аб фінансавым становішчы Польшчы, „Robotnik“ офіцыяльны орган P. P. S. у № 161 так піша ў справе надмерных непрадуктыўных выдаткаў Польскага ураду.

> „А ці-ж закід надмерных выдаткаў, нялічэньне з станам скарбу пры ўхваленьні новых крэдытаў і г. д. не датычыць сучаснай урадовай большасьці, напр. п. Брыля, які правёў 50 мільярдны крэдыт для асаднікаў“.

Кароткая памяць у паноў з P. P. S. Ці-ж яны ўжо забыліся, што і P. P. S. разам з Wyzwoleniem, як і ўсе іншым польскія партыя галасавалі за гэтыя крэдыты, а нават сябра іх партыі пасол Квапінскі дамагаўся павялічэньня гэтых крэдытаў да 100 мільярдаў.

# З Польскага Сойму.

Міністар фінансаў Грабскі выступіў на паседжаньні Сойму з праграмнаю прамоваю аб фінансавай палітыцы новага ўраду. Грабскі адзначыў, што галоўнаю прычынаю спадку польскай маркі зьяўляецца друкаваньне новых папяровых грошай. Доўг казны ў Польск. Краёв. Пазычк. Касе павялічыўся ад студзеня ў 4 разы, а марка ўпала ў 5 разоў. Шкодным зьяўляецца ўплыў нямецкай маркі, з прычыны цеснай фінансавай і эканамічнай лучнасьці з Нямеччынай і дзеля гэтага гаспадарчы крызыс Нямеччыны адбіваецца і на Польшчы. 60% польскага вывазу ідзе да Нямеччыны. Павялічэньне вывазу заграніцу, а асабліва ў Нямеччыну тлумачыцца не павялічэньнем прадуктыўнасьці польскай вытварчасьці, але прыхільнымі для Польшчы абставінамі ў зьвязку з нямецкім гаспадарчым крызысам (акупацыя Руры). Міністар фінансаў стаіць за павялічэньне загранічнага вывазу, у тым ліку і дзерава, хоць бы коштам адбудовы краю, каб павялічыць у краю лік загранічных валют і тым стрымаць спадак маркі, а таксама за павялічэньне падаткаў.

Адзначыўшы далей, што расходы Польскай Рэспублікі заўсёгды былі шмат большыя, ад даходаў (напр., у траўні расходаў было 1.131 мільярдаў мар., а даходаў толькі 851 мільярд.) Грабскі падкрэслівае патрэбнасьць зьмяншэньня выдаткаў, скасаваньнем шэрагу пазыцый у буджэце на агульную суму 720 мільярдаў марак, а для гэтага трэба назначыць асобнага камісара па ашчаднасьці.

Пасьля экспозе мін фін. Сойм заняўся разглядам чарговых спраў. Пры абмаркаваньні сьпешнай прапазыцыі P. P. S. у справе збройнага нападку на пасла Дабравольскага (P.P.S.) дашло, як гэта часта здараецца у польскім Сойме, да авантуры паміж эндэкамі і P.P.S. Маршалак прымушаны быў два разы перарываць паседжаньне.

---

Юрыдычная Камісія прыняла ў трэцім чытаньні праект уставы аб амнэстыі з прычыны прызнаньня ўсходніх граніц. З амнэстыі выключаны праступленьні аб дзейнасьці на карысьць чужых гаспадарстваў са шкодаю для Польскай Рэспублікі і якія імкнуцца да ўвядзеньня камуністычнага ладу.

## Яшчэ пачакаем.

Нашы паслы ідучы ў Сойм казалі выбаршчыкам, што самая пякучая і галоўная справа гэта ёсьць пытаньне аб зямлі, якое яны пастараюцца вырашаць так як патрабуюць інтарэсы працоўнай клясы.

Зямельная справа ў Польшчы дужа заплютаная і цягнецца вырашэньне яе да бесканечнасьці усё на карысьць абшарнікам. Яшчэ з першых дзён адноўленай Польшчы ў 1919 г. „рэвалюцыйны“ ўрад капітана Марачэўскага, якому давялося ваяваць на некалькі фронтаў, быў у вельмі трудным становішчы. Пры гэтым націск сапраўды рэвалюцыйных мас змусіў тагочасны ўрад пайсьці на ўступкі і выдаць тыя ці іншыя законы на карысьць працоўных. Быў устаноўлены 8-гадзіны дзень працы, прымусовае вывлашчэняне абшарніцкай зямлі і інш. Пасьля, як упаў урад Марачэўскага зямельны закон астаўся толькі на паперы і захованы быў „пад сукно“, астаўся ласай абецанкай, якой супакаівалася нездаволеная маса без'зямельных і малазамельных сялян. А тым часам рабіўся торг зямлёй. Паны прадавалі за даляры і чырвонцы свае двары, рубілі ў шчэнт лясы, А калі які дзе двор і парцэляваўся, дык зямлёй яго надзяліліся праслыўшыя ў нас асаднікі. Гэта апрача іншых самыя балючыя для нас крыўды. Гэтак было да гэтага часу, дык што-ж цяпер можна спадзявацца калі „Хіена—Пяст“ учарэпіліся за ўладу?! Ужо ходзяць чуткі, што выпрацовываецца праект аб зьніштажэньні закона, які кажа пра адабраньне абшарніцкай зямлі.

Каб папярэдзіць злыбяду, якую рыхтуюць паны для малазямельных і беззямельных сялян, паслы камуністы падалі ў Сойм ніжэйпададзены заканапраект.

> „Прыватная уласнасьць вышэй 60 гэктараў мае быць аднятай без ніякага выкупа. Аднятыя прыватныя маёнткі панскія і дзяржаўныя эрэкцыянальныя, манастырскія, царкоўныя і г. д. з усім жывым і мертвым інвэнтаром, гаспадарскімі забудаваньнямі і усім, што да іх належыць пераходзяць да распарадку Грамадзкіх і Паветовых Зямельных Камісіяў, выбраных агульным галасаваньнем малазямельных і бяззямельных сялян.
>
> Надзел зямлёй бясплатны. Першымі надзяляюцца парабкі, баззямельныя і малазямельныя сяляне. У так называемых ваеводзтвах: Львоўскім, Станіславаўскім, Валынскім, Палескім, Навагрудзкім і ў Віленшчыне выключнае права да надзелу зямлёй, прыслугуе бяззямельнаму і малазялельнаму насяленьню без рожніцы нацыянальнасьці. Надзел зямлёй асоб, якія не належаць да ніякай з вышэйшай катэгорый ёсьць бязпраўны і ўважаецца нябыўшым. Абшарніцкая ці дзяржаўная зямля, што ёсьць у карыстаньні дробных арэндатараў у колькасьці да 15 гэктараў, альбо дананятая зямля, якая разам з уласнай не перавышае 15 гэктараў, пераходзіць у іхнюю уласнасьць.
>
> Усе гэтыя надзелы ня могуць быць прадметам куплі, прадажы ці дараваньня. Вынаняцьце дапускаецца толькі найвышэй да 3-х гадоў і то са згодай Зямельнай Камісіі. Спадчына дапускаецца толькі ў беспасрэднай лініі сваяцтва, а калі няма насьледнікаў, дык зямля пераходзіць у распарадак Зямельнай Камісіі.
>
> Лясы не даюцца ў надзел, а цалком пераходзяць на ўласнасьць дзяржаве.“

Праект гэты падпісалі беларускія і ўкраінскія паслы. Каб аканчальна даведацца аб намерах хьенапястоўскіх партый ў Сойме, дык пачакаем, што станецца з гэтым праектам аб зямельным законе.

**Ю.**

## Перастараліся.

У адным з намяроў газэты „Наш Сьцяг“ быў малы артыкульчык аб тым, што паны ў сваей людаедзкай палітыцы каб не перастараліся і не раскрылі сваю праўдзівую істоту, свае зубкі, не ўваліліся ў яму якую капаюць нам.

А мне, жывучаму на вёсцы, добра ўжо відаць банкроцтва панства сярод нас сялянства, відаць, што хвацілі цераз меру, перастараліся.

Кожны селянін уразумеў раз на заўсёгды, што паміж ім і панам непраходная пропасьць, што калі пан пануе, ну дык дабра там не чакай. А пераканаўся селянін дзеля таго, што ўсюды бача як, з яго хочуць выкарастаць, як з яго зьдзекуюцца на кожным кроку. У судзе яго пан засудзе, больш прыпадае на яго долю падаткаў, яго газэты прасьледуюцца, яго дэпутатаў арыштовываюць і шмат што, аб чым селянін кожны дзень з болем адчувае і навучаецца.

Трохі інакш справа стаяла ў беларусаў каталікоў. Яны жылі „ў пакоры і баязьні Божай“, каб пасьля сьмерці не папасьці ў пекла, аб гэтым іх навучаў ксёндз. Што-б ксёндз не сказаў усё было добра, сьвята, Трэба толькі маліцца і быць паслухмяным і усё зло направіцца, бо яно таксама ад Бога насылаецца, каб пакараць людзей за жыцьцё за іх грахі. Але, каб атрымаць нябесную чыстату і радасьці рая, дык трэба было яшчэ галасаваць за сьпісак № 8, за сьпісак куды ўваходзілі ксяндзы і самыя гатунковыя паны, патомкі тых паноў, што панавалі ў часы паншчыны. І нашыя сяляне як „баранкі“ Божыя слухалі і галасавалі за васьмёрку, самахаць уздзевалі на сябе ярмо.

У апошнія часы гэтае ярмо пачынае што раз мацней націскаць, муляць. Гэта змусіла сялян задумацца, адшукаць прычыну, вінавайцу. Доўга шукаць ня трэба была. Ксяндзы перастараліся, палезьлі не ў сваё дзела — Хрыстос стаяў у абароне бедных і пакрыўджаных, а яны вун куды загнулі. Селянін каталік з болем у душы гэта пачуў, пачуў, што яго ашукалі, што вера была скалечаная, што ён сам сабе быў вораг.

Цяпер ён ужо ня верыць ксяндзу, калі той кажа, што яго мова хамская, што ён паляк, а не беларус. Ня ходзіць ён ужо і ў касьцёл, бо там ксёндз дрэнна кажа аб беларусох, жыдох, аб меншасьцях, а ён, як сын працоўнай вёскі, з сваей крыстальнай душой хоча усіх любіць, а яшчэ як успомніць васьмёрку, дык аж з нутра яму завернець. І шукае селянін ісьціны ў душы сваей, дакапываецца да родных карэньняў, шукая новых вучыцялёў і сапраўдных прыяцеляў. І шукаючы іх знойдзе.

А ксяндзы са сваёй васьмёркай усёткі перастараліся.

**Юр.**

# Беларусы і Ірляндцы.

Карэспандэнт нашае часопісі з Чыкаго паведамляе, паміж іншым, аб дужа прыхільных адносінах тамтэйшага ірляндзкага грамадзянства да беларусаў і беларускае справы. Ірляндцы—прыхільнікі дэ-Валеры ахвотна аказваюць сваё падтрыманьне беларускім дзеячом і арганізацыям, якія толькі нядаўна пачалі сваю працу сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы.

Спогад з боку народу, які больш за сто гадоў вядзе няўстанную барацьбу з Англіяй за сваё вызваленьне, зусім зразумелы. Ніхто лепш за ірляндцаў ня можа адчуць і эразумець настрояў і імкненьняў беларускага народу. З шчырым здаваленьнем лічым патрэбным тутака адзначыць. што ня першы гэта раз прадстаўнікі ірляндзкага народу працягіваюць нам братнюю руку помачы.

Першае спатканьне беларусаў з ірляндцамі адбылося ў самым пачатку беларускага руху да вызваленьня Бацькаўшчыны—восемнадцаць гадоў таму назад. Было гэта вось як.

У 1905 годзе ў Фінляндыі адбываўся зьезд прадстаўнікоў рэвалюцыйных партыяў усіх нацыянальнасьцей Расейскага гаспадарства. На зьездзе гэтым дэлегатам Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады (з якое пасьля сфармавалася Беларуская Сацыялістычная Грамада) быў павадыр усяго беларускага адраджэнскага руху, с. п. Іван Луцкевіч. Быў тутака і прадстаўнік ірляндзкіх рэвалюцыянераў. Апошні вельмі зацікавіўся беларускім рухам, прасіў беларускага дэлегата завесьці сваім таварышам шчырае прывітаньне ад арганізацыі сінн-фэйнэраў і аддаць зялёны трылістнік — ірляндзкі нацыянальны значок.*) Праз нейкі час ірляндзкія сінн-фэйнэры прыслалі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе невялікую суму грошы на выдавецтва, як доказ шчырага спогаду ірляндзкага народу беларусам.

На гэтым зацікаўленасьць ірляндцаў беларускай справай ня спынілася. Праўда, беспасярэдніх зносін ня было, але ўжо ў пачатку сусьветнае вайны—ў 1914 годзе — ірляндзкія газэты закранулі беларускае пытаньне ў сувязі з сусьветнымі падзеямі. Стацьці аб беларусах былі пранікнуты шчырай сымпатыяй да нашых нацыянальных імкненьняў.

Цяпер беларусам давялося ізноў спаткацца з ірляндцамі на амэрыканскім грунце, на якім ірляндзкія байцы за вызваленьне свайго народу заўсёды знаходзілі прыпынак і бясьпечны схоў. І сымпатыя паміж двума м у ж ы ц к і м і уцісканымі народамі ўраз-жа выявілася не на славах, а на дзеле.

Мы ў свой чарод шлём гарачы прывет многапакутнаму ірляндзкаму народу, які сваей цьвёрдасьцю і вернасьцю нацыянальнаму ідэалу служыць узорам для ўсіх прыгнечаных і уцісканых. Мы выказываем шчырую радасьць, што гэты народ—змагар урэшце значна прыблізіўся да зьдзейсьненьня свайго ідэалу, і верым у хуткае давядзеньне справы поўнае вызваленьне Ірляндыі спад уціску капітала да пажаданага канца.

**аль.**

# З усяе Беларусі.

**Веска Сваткі**, Дунілаўскага павету.

Сяляне нашай вескі доўгі час дамагаліся беларускай школы: рабілі прыгавары, падавалі ўсюды заявы—нічога не памагло, так школы і ня маем. Страшна робіцца за будучыну як глянеш на дзяцей—невукаў.

І жывем вось так у цемры, а ведама, што сярод цемнаты горш прывіваецца зло. Так і ў нашу вёску наехаў неякі з Польшчы ягомасьць і адчыніў рэстаран ды як павук

---

*) Значок гэты знаходзіцца у музэі Беларускага Навуковага Таварыства ім. Івана Луцкевіча, у Вільні.

